Уладзімір Папковіч

# Як ёсць...

## Вершы і пераклады розных гадоў

Мінск, 2015

УДК
ББК
П

Папковіч У.
ЯК ЁСЦЬ.../ Уладзімір Папковіч — Мінск, 2015. — 104 с.

ISBN

«Як ёсць…» Гэты просты загаловак на вокладцы новай кніжкі вершаў Уладзіміра Папковіча падкрэслівае немудрагелістасць яе зместу. Як і належыць чалавеку сталага ўзросту, паэт найчасцей звяртаецца да будзённых роздумаў пра жыццё: ці так жыў, ці быў верны запаветам маці, ці не забыўся гукі, пахі, колеры роднай зямлі, пад уздзеяннем якіх фармаваліся паэтавы характар, паводзіны і светаўспрыйманне.

Акрамя арыгінальных вершаў, у кнізе змешчаны таксама пераклады твораў нямецкіх і рускіх аўтараў розных эпох, зробленыя Уладзімірам Папковічам у апошнія гады.

ISBN

УДК
ББК





*"Піць роднай мовы сырадой…"*

Уладзіміру Папковічу неўзабаве споўніцца 80 гадоў – менш месяца засталося да ягонага дня народзінаў ад сёння, калі я пішу гэтыя радкі. Як знанаму выкладчыку нямецкай мовы дзяржуніверсітэта, слыннаму германісту, рупліваму перакладчыку, народнаму дыпламату, які зладзіў колькі дзесяткаў паездак студэнтаў на моўную практыку ў Германію, многіх прадстаўнікоў грамадскасці – каб пaглядзелі, як там у Еўропе, Уладзіміру Антонавічу лёгка прымерацца да гэтай прыемнай круглай даты, а як паэту – не. Як паэту яму, можа, пару тысячагоддзяў, бо творца жывіць свой дух найдаўнейшымі традыцыямі, напаўняе яго заўсёды ўсхожым зернем мудрасці з дзедаўскага засека, адкрыццямі народнага самаспазнання і самаўсведамлення, бруістым токам глыбінных моўных крыніц і пры гэтым захоўвае імпэт і цікавасць да жыцця няўрымслівага юнака. Гэтая кніжка сладзена, ў асноўным, з вершаў апошняга часу, а з іх бачна, што паэт да сёння, дзякаваць Богу, не навучыўся жыць з разлікам, не ачарсцвеў ад побытавай прозы, не абяднеў на залішнія клопаты аб здабыцці ніколі не лішніх грошай. І намацвае адзіна верную і таму звужаную, як ступіць, сцяжыну далейшага жыцця. У маладыя гады мы, бывала, апраўдваліся перад маці: "Мама, я ж выпіў адну грамульку, вось паглядзі – па адной маснічыне прайду... Не сярдуй!" Так у свае залатыя гады Уладзімір Папковіч ступае па "маснічыне" свайго лёсу, пасланай пад дахам роднага неба Самім Госпадам. Ступае, азіраючыся на Яго і, як заўсёды, – на людзей. Няхай гэтая маснічына доўжыцца да самага небакраю!

**Сяргей Рублеўскі,**
**Віцебск.**

## РАДАСЦЬ ЖЫЦЦЯ

Цудоўны дзень! І ты яшчэ жывы.
З-за хмары сонца восеньскае свеціць.
Дурныя думкі выкінь з галавы,
Імкніся ў людзях дабрыню прыкмеціць.

Глянь, колькі ў гэтым свеце пекнаты,
Вакол цябе: уверсе, знізу, збоку...
Няхай не ў цэнтры апынуўся ты,
Затое ў Госпада – навідавоку...

* * *

Я не ведаў, з чаго мне пачаць,
І, па звычцы упартых падлеткаў,
Часта мусіў зацята маўчаць,
Каб не мець, калі схіблю, сведкаў.

Сарамліва няўмеласць хаваў,
Быў упэўнены: “Пераадолю!”
Працаваў, кпіны ўпарта трываў,
Не даваў адгаворкам волі!

І цвярдзіў сам сабе: “Браток,
Нараджэнне ж – заўсёды пакуты...”
І тады ажываў мой радок,
І скідаў з сябе мулкія путы.

* * *

Закіну кнігі, пакіну справы,
На ўсе турботы накіну клямку.
Пайду ў нязведаным напрамку
Туды, дзе ў полі буяюць травы.





Скажу “Вітанне!” барам і гоням,
І адгукнецца мне смех дзіцячы,
І горка кнігаўка заплача...
І я былое ўсё прыпомню.

* * *

Выходжу да людзей, бо цяжка аднаму,
Бадзяжны дух зноў абяцае волю.
Бязмэтна забрыду ў царкву або ў карчму,
Душы так хочацца пазбыцца болю.

Вакол, куды ні глянь, – у кожнага свой тлум:
Тут Бога моляць, там рагочуць хмельна.
Яны чужыя мне. Душу палоніць сум,
Пакутуе, збалелая, пякельна.

Ніяк сабе самому рады не даю,
Кіруюся бязвольна да парога.
Пад небам хмурным роспачна стаю.
Куды ісці?
І дзе тая дарога?

* * *

На шэрым досвітку прачнуся,
Бадзёра выйду на святло.
І ад жуды закалачуся –
Як шмат жыцця дарма прайшло!..

*10.06.05 г.*

* * *

Не смейцеся з простага люду –
Будзённа жыве... але
Таксама чакае цудаў,
Якія Ўсявышні прышле...

І тут загараюцца зоркі,
Ён чуе: “Бяры, твае...”
Спрабуе... ды вынік горкі:
Высака... не дастае.

Не румзае, не галосіць,
Ёсць сродак, вядомы яму.
Шынкарка спытае: “Мо досыць?”
“Не! За нязбытнасць кульну!”

* * *

Такі настрой, што хочацца спяваць.
Так ярка свеціць сонца маладое!
Карціць душу бяз страху адкрываць
І размаўляць пра самае святое.

Я веру: ворагаў даўно няма,
Іх перамог я ласкай, добрым словам.
Памалу адступае ўжо зіма.
Твар грэецца пад сонейкам вясновым.

* * *

Ад пустой балбатні адвярнуся,
Рэжуць вуха мана і лухта.
Беларусь, я табе не клянуся,
Толькі я без цябе – сірата.

*1995 г.*





* * *

І ў холад, і ў гарачыню,
У роднай хаце і ў гасцях,
У модным плацці альбо “ню” –
Якім ні выдаўся б вам шлях,

Як бы ні здзекаваўся лёс,
Альбо падсоўваў мех уцех,
Сардэчных не хавайце слёз,
Не стрымлівайце шчыры смех.

Не ходзіць шчасце без трывог...
Лятуць у вырай журавы...
А над усім –
Турботны Бог,
Як вы –
Няўрымсліва жывы.

* * *

Пытаюся ў сябе, а што мне даражэй,
Прызнанне, дабрабыт ці проста воля.
Здаецца, што пытання не было цяжэй.
Душа маўчыць, знямелая ад болю.

Са слабым крыллем выпаў я з гнязда,
Ні грэбці пад сябе, ні лётаць не навучыўся.
Спагады не спазнаў, прагнала “грамада”:
“Чаму ён з намі не лічыўся?”

Цяпер брыду самотна і ўбаку.
“Дзе ісціну шукаць?” – бязрадасна гадаю.
Трымаю скібку хлеба ў кулаку
І ў неба час ад часу паглядаю.

* * *

Здавалася: душа перахварэла
Усімі болькамі нявылечнай Зямлі.
Здавалася, што ўсё перагарэла
І засталіся толькі вугалі.

Ды адчуваю: не, яшчэ турбуе,
Нашэптвае трывожнае і ў сне...
Настойлівая, ўвагі патрабуе,
Аж сэрца закалоціцца ўва мне...

Ніяк не хоча з пошасцю змірыцца,
Карціць ёй заставацца ў чысціні,
Не спакусіцца славай, не скарыцца,
Не растварыцца ў даўкай мітусні.

* * *

Месяц пазалаціўся,
Рассечаны папалам,
Над горадам вечар спусціўся,
Разліўся святлом рэклам.

Зоркі ў Дзвіне намоклі –
Выцягвай са дна і лічы,
Песня з адчыненых вокнаў
Вольна плыве ў далячынь.

Я крочу прымоўклым праспектам
І песню каханай нясу
Аб тым, што канчаецца лета...
А ў сэрцы трывога і сум.

*1971 г.*





* * *

Мне цяжка зразумець сябе самога,
І часам не дае спакою злосць.
Здаецца, шмат мне дадзена ад Бога,
А ўсё замала мне таго, што ёсць.

Хачу кахаць, любіць, спазнаць, валодаць,
Вунь гэнае набыць і тое мець хачу.
Зайздрошчу тым, хто без паспеху ходзіць.
А я бягу, як на пажар, імчу!

Свет неахопны, ён мяне пужае.
Прагрэс змушае Д'ябалу служыць.
Сон розуму прывіды нараджае...
Я прытармажваю...
Вучуся жыць...

* * *

Наш свет безабаронны,
Яму апраметная сніцца.
А я – драбочак ягоны...
Ад жахаў чым засланіцца?

Жыццё не дае адказаў,
Хавае надзейна сакрэты.
Нястомна пытаю.
Ні разу
Сваёй не выдала мэты.

Ад смерці нікуды не дзецца –
Гэта закон прыроды.
А што жыццём завецца?
Страхі, хлусня, выгоды?

*   *   *

Раптам прыпомніцца штосьці,
Як з фільма, малы эпізод
З дзяцінства ці з маладосці,
З часу нягод і прыгод.

І зробіцца горка і смешна,
Балюча да нематы:
Няўжо гэта я – гэткі грэшны?
Няўжо гэта я – святы?

*   *   *

Я не баюся, што звалюся
На свежасць нетаптаных рос,
Унізе лежачы, дзіўлюся
На зоры, што мігцяць з нябёс.

Якія знакі ці сігналы
Перадаюць яны Зямлі?
Ды розум мой недасканалы...
Мы ўрок пра неба “не прайшлі”...

*   *   *

Калі ўжо больш не пацягнуць
Мне воз цяжкі жыццёвы,
Хачу зваліцца і заснуць
Я на капе жытнёвай.

Хай колюць цела асцюкі –
Што тыя п’яўкі-больki!
Прамовяць ціха землякі:
“Паложам каля Волькі.”





*   *   *

Разумнік моршчыцца: “Не тое...
Зашмат канкрэтыкі, яна амаль што ў лоб...”
Я ж праз бязглуздзе слоў густое
Раблю шырокі даляглядны расцяроб.

Нялёгка сёння прадзірацца
Да сэрцаў праз гушчар хлусні,
Быць, чым ты ёсць, і не скарацца,
З натоўпам не крычаць: “Распні яго! Распні!”

Я кепскі знаўца навамодных кліпаў,
Я чую спеў лясоў і ціхі шэпт травы,
Магчыма, з новай плыні я і выпаў,
Але мой свет –
жывы...

*   *   *

Бягуць, бягуць паведамленні ленты.
Як разабраць, дзе праўда, дзе мана?
Даверлівы, прачытваю “камэнты”:
Вайна, вайна, вайна, вакол вайна...

Палітыкі ж падзеі разбіраюць,
Як быццам назіраюць з вышыні...
Там гінуць, забіваюць, паміраюць...
О Ўсемагутны! Я малю: спыні!

Стаю пад небам, слабы і пахілы...
Гімн новым тэхналогіям гучыць...
І ўсё растуць нявінныя магілы.
Свет звар’яцеў?...
А чым яго лячыць?

* * *

*Dieses Jahr komm ich nicht in den Süden*
*(Eva Strittmatter)**

Я сёлета на поўдзень не памкнуўся,
На поўначы застаўся – тут мой дом.
Вось верасень прыйшоў,
Віхор прачнуўся
І шамаціць лістотай за вакном.

Мне пошум той – душы супакаенне,
Спрыяе роздуму пра дабрыню і злосць.
Сціскаецца жыццё ў кароткае імгненне,
І я трываю ўсё, што ёсць –
Часовы госць.

* * *

У век барацьбы за адзінства
Адзін аднаму не верым.
Нас прывучылі з дзяцінства
Адпавядаць паперам.

Барацьбіты – на словах,
Са спадчыннай анкетай
Крочылі па галовах
Да "самай высокай мэты".

Хто вышай стаяў – віталі,
Хто не згаджаўся – тапталі.
Потым хлусліва шапталі:
"Нам гэныя загадалі..."

*Сёлета я не еду на поўдзень (Эва Штрытматэр).





* * *

Тут, кажуць, вёсачка была,
Цвіла жывым вясёлым цветам.
Спявала, плакала – жыла,
Руплівая зімой і летам.
Далекавата ад шашы –
Для транспарту, як костка ў горле –
І тры апошнія душы,
Даўно забытыя,
Памёрлі.

Меліяратары прайшлі,
Капалі весела і гулка,
Канал глыбокі правялі,
Там,
Дзе была калісьці вулка.
Чыя віна?
Каго карыць?
Жыццё імчыць нястрымна плынна...
Дзе вёсачка была,
Гарыць
Чырвоным полымем каліна...

* * *

Кастром начлежным лета дагарае,
Прыглушанасць чуваць у галасах.
Блукае восень па прыціхлым краі,
Па зжатых нівах і грыбных лясах.

Паціху вечар фарбы ўсе сцірае,
Менш – весялосці і ўсё больш нуды.
Глядзіць у неба з-пад рукі старая –
Ці вырай лічыць,
Ці свае гады.

* * *

Мой лёс –
Галера і прастол –
Гняце мяне і ўсцешвае.
Я свой цяжар цягну,
Як вол,
А жорсткі час прыспешвае.
Ён перадыху не дае,
Сам, шпаркі, задыхаецца,
Са мной галосіць і пяе,
Сумуе і ўсміхаецца.
Няўжо
У гэтым сэнс жыцця?
Ратуюся малітваю,
І, як наіўнае дзіця,
"А што далей?"
Распытваю.

* * *

Прыносіць кожны дзень праблемы,
Не абыходзіць стараной.
Узаемазвязаныя ўсе мы
Нябачнай ніткачкай адной.
Калі захмелены
удачай,
Шчаслівы, заспяваеш,
то
Паслухай:
За сцяной не плача
У чорнай скрусе
Аніхто?

*1973*





* * *

Зноў мяне ноч накрывае
Ценем свайго крыла.
Сэрца маё прадчувае
Хітрую прыхамаць зла.

Сэрца аслабла ў трывозе –
Збрыдзела жыць.
Змораны звер у бярлозе
Моўчкі ляжыць.

* * *

Прачынаюся раптам у пяць.
Мне здаецца, што нешта праспаў.
Мне б наогул не класціся спаць,
Час падкінуў бы спраў і забаў.

Колькі з раніцы планаў было...
Не адолеў – імпэт мой
Не той...
Не паспеў.
Мітусіўся.
Сплыло
Планаванае
Плыткай вадой.

Уставай, завіхайся...
Зірні:
Свет шчыруе на веснай сяўбе.
Упрагайся
І зноў цягні
Воз –
Свой лёс,
Дараваны табе.

*   *   *

Зноў добрага настрою не хаваю –
З'явіўся ён, як вецер, сам сабой.
Жартую зноў, смяюся і спяваю,
Развітваюся весела з журбой.

Зірну на дрэвы: іней серабрыцца,
Сад знерухомеў, бы ў чароўным сне.
Зіма ідзе... Ступае, як царыца,
Паблажліва казыча шчокі мне.

Душа зноў абуджаецца для шчасця
І праганяе ад сябе нуду.
...Блішчыць лядок на сцежцы...
Каб не ўпасці,
Я небяспеку бокам абыйду.

*   *   *

Сваёй сцяжынкай я іду-брыду,
З яе не паварочваючы ўбок.
Перажываю радасць і бяду.
Няўжо размеркаваў іх хто знарок?

Не супэр-мадэрновы, не гулец,
І не мудрэц, не знаўца, што і як.
Не правадыр, не лідар, не баец.
Адданасць роду – мой нябачны знак.

Мае забавы ў Лету адплылі,
І крыўды ўсе згарэлі на агні.
Я моўчкі прыпадаю да зямлі.
Малюся за яе:
“О Божа, барані...”





*   *   *

Ані з кім спаборнічаць болей не хачу,
Не такі характар мой ды й не той імпэт.
Абылганы ворагам, лепей прамаўчу.
Няхай разумнейшыя паляпшаюць свет.

Я свае імкненні суцішыў, як мог.
Хоць, бывала, марыў наперадзе быць.
Але маю вопыт, як збіваюць з ног.
Вучуся ў Ісуса існае любіць.

Зоркі ў паднябессі, ноч і цішыня,
Нясмелы світанак, першы гук з двара,
Штурхатня людская турботнага дня...
І зморана вечар – адпачыць пара...

*   *   *

Люблю сядзець да позняй ночы
І моўчкі слухаць цішыню.
Няхай мне змора слепіць вочы,
Я сон-назолу прэч ганю.

Я размаўляю сам з сабою
Без адгаворак і маны...
Гады вясёлыя, з журбою
Плывуць з забытай даўніны.

Нібы гайдаюцца арэлі –
Адтуль вяртаюся сюды.
Гады ссівелі, пастарэлі...
А я, на злосць ім, – малады!

*2000 г.*

* * *

Я ноч не спаў – былое варушыў,
З усіх бакоў да лёсу падыходзіў:
Шмат памыляўся я
І шмат грашыў,
І падаў,
І сабе самому шкодзіў.

На целе засталіся сінякі,
І на душы зарубкі засталіся
Ад вас на памяць, хлопцы-сябрукі,
На памяць ад дзяўчатак,
Што кляліся.

Усё гэта нармальна...
Назаўжды
Нясцёртае зацята застанецца.
Я праз гады прасочваю сляды...
Ах, кожнаму з нас нешта адгукнецца...

* * *

Нечаканы прамень заззяў
І мне свет асвяціў неабсяжны.
І стаю я, паломнік бадзяжны,
У суквецці таемных з'яў.

Не бяруся іх разгадаць.
Інтэлект мой слабы, хоць храбрыцца.
Да схаванага не прабіцца.
Мне паверхня толькі відаць.

Перад дзіўнай загадкай стаю,
Кропля-кропачка перад Богам.
Не пытаюся, што за парогам.
Прамаўляю малітву сваю.





* * *

У гэту ноч мне спалася спакойна,
Абрыдлых сноў жахлівых я не бачыў.
Бо перад тым я дзень свой перайначыў,
Сябе паводзіў ціха і прыстойна.

Чаго хацець, калі наканавана
Сыйсці ў нябыт. Магчыма, неўзабаве?
Я не купаўся ў пашаноце, славе,
У скрынях скарбаў мной не прыхавана.

За што змагацца і чаго баяцца?
Жыццё прайшло... і часам недарэчна.
З нас аніводзін жыць не будзе вечна.
Мне болей сны жахлівыя не сняцца.

* * *

А шчасце, сцвярджаюць, у барацьбе,
Стаяць убаку нягожа.
У калатнечы растраціў сябе,
Навошта, уцяміць не можа.

Жыццё праляцела бясследна, дарма.
Было яно, ці падалося?
Ні шчасця, ні скарбаў – нічога няма.
Бурленне крыві – засталося.

* * *

Звіняць зноў спакусліва бомы
У заімжэлых палях,
І клічуць у шлях невядомы,
Ніколі не ходжаны шлях.

* * *

Знікла, расплылося, як туман,
Тое, што балюча хвалявала.
Я цяпер на свеце вольны пан
І жыву спантанна, як папала.

Я цяпер нічога не раблю,
Толькі сплю ды вершы прыдумляю,
Сам з сабой у хованкі гуляю,
З ворагаў, што дапякалі, кплю.

Я не ведаў, што так можна жыць,
Без турботаў і нязбыўных мараў.
Шлях мой самахоць далей бяжыць
Між някідкіх, родных мне абшараў.

* * *

Стома на сумных тварах,
На сэрцах людзей неспакойна,
Як быццам чакаюць кары,
Таму што жылі непрыстойна.

Сядзяць і маўчаць упарта,
Пытанні мае – не да густу.
Нічога казаць не варта,
Бо прымуць твой жарт за распусту.

Не разумею, наіўны:
Няўжо гэты люд бяссільны?
Вечна самотны, надрыўна
Крыкам крычыць у мабільны.





* * *

Звініць тэлефон.
Адказаць патрабуе.
А я ані з кім не хачу размаўляць.
Нічога на свеце душу не турбуе.

Мне болькі чужыя ўжо больш не баляць.
Усё адбалела.
Усё адсмылела.
Наперадзе пуста.
І цёмна ўваччу.
Да тэлефона пакрочу здранцвела,
Штось мармычу,
Але сэрцам маўчу.

* * *

Не адзін, не два разы
Ты на роўным спатыкнешся,
Набіваючы гузы,
Быць мудрэйшым паклянешся.

Шышку свежую на лбе
Медным пятаком астудзіш,
Абяцаючы сабе,
Што хадзіць з аглядкай будзеш.

Асцярожнасці рабом
Зробішся... і ўсё ж нарэшце
Медна-зацвярдзелым лбом
Бразнешся на роўным месце.

*   *   *

Хто ведае бяды і шчасця меру?
Куды ісці – туды альбо сюды?
Быць паслухмяным і рабіць кар'еру
Ці проста жыць і не лічыць гады?

Шлях пройдзены, дзе вольна, дзе таропка...
Хоць за туманам сцежкі не відаць,
Але ўжо недалёка тая кропка,
Дзе рызніку з сябе ўсё можна здаць,

Пазбавіцца наноснага, і толькі
Не вытрасці збалелую душу,
Бо ў ёй і радасці твае і болькі,
І словы маці,
Незабыўныя,
Ўвушшу.

*   *   *

Я спаў у начлезе – руку пад шчаку,
Касцёр дагараў і дыміўся.
А зоркі міргалі маладзіку:
"Глядзі, як малы прытаміўся".

Падлеткі прыпалі да роднай зямлі,
Шумець, гаманіць перасталі,
Зваліліся ўпокат, насамі саплі,
І кашлялі, і мармыталі.
Мы толькі што выйшлі з жахлівай вайны,
Ледзь душы ліпелі
ў целе,
І наша будзёнасць прыходзіла ў сны:
Мы есці пакутна хацелі.





*   *   *

Чытаю вершы пра адзіноцтва,
Пра горыч слёз.
Са мною побач маё сіроцтва,
Няўдалы лёс.

Мне змалку быў наканаваны
Жыццёвы жах,
Пакручасты і здратаваны,
Няпэўны шлях.

*16.08.1994 г.*

*   *   *

Пятак цана паэзіі і прозе,
Калі з вачэй сляза не пацячэ...
...Мы вяжам арматуру на марозе,
Настылае жалеззе аж пячэ.

Ці бачылі вы ў полі палігоны –
Мо' думаеце, сёння іх няма...
Там вяжуць бэлькі, рыгелі, калоны,
Давай, давай – ці лета, ці зіма.

Кусачыкі і важкі скрутак дроту,
Набор сталёвых стрыжняў на "казле".
Працуюць тут не ўсе дабраахвоты,
Не ўдарнікі бадзёрыя... Але

Мы вяжам арматуру для будоўлі,
Каб выраслі цёплыя дамы,
Каб потым лірык хатняе гадоўлі
Там выраблаў бетонныя тамы.

* * *

*Девушка пела в церковном хоре…*
*А. Блок*

Дзяўчынка натхнёна спявала ў хоры,
Спявала "Рэквіем" за мяжой,
Лунаў яе спеў у царкоўнай прасторы,
Ува ўрачыста-прыгожай, чужой.

Дзяўчынка спявала… і быццам ляцела,
Каб дакрануцца рукой да нябёс,
Здаецца, бязважкім рабілася цела,
І дух таямнічы шчаслівую нёс.

Заплюшчыла вочы… і ўбачыла: міма
Знаёма мільгаюць палі і лясы,
Пачула: у сэрцы спявае Радзіма,
Яе далягляды, яе галасы…

## ПРА ВОЛЮ

Ці ў лесе, ці ў лузе, ці ў полі –
Гэта яшчэ не на волі.

Ці на спякоце, ці ў золі –
Гэта яшчэ не на волі.

На шпацыры ці ў завуголлі –
Гэта яшчэ не на волі.

Ці з песняй, ці ў дзікім скуголлі –
Гэта яшчэ не на волі.

Калі ж мы бываем на волі?
Без чыстай душы – аніколі!





* * *

Новы год маладым пачынаецца.
Пачынаецца з песень і жартаў.
Гэта значыць – жыццё не канчаецца.
Гэта значыць – здавацца не варта.
Будуць радасці, будуць турботы,
І застолле будзе, і гора.
Заўтра, пэўна што, будзе работы
Яшчэ болей, чым сёння ці ўчора.
Мы збудуем харомы-палацы,
Іх заселім працоўным людам.
Толькі трэба, як след, пастарацца…
…Дайце веры нязбыўным цудам…

* * *

Смяецца Д'ябал, выскаляецца
І шэпча мне: "Рабі, рабі…
Вакол цябе дабро валяецца –
Вазьмі хутчэй і не згубі.

Са смецця кветку палымяную
Змайструй, каб ажыла яна,
Душу тваю, замардаваную,
На людзі выведзе з цямна."

І я раблю, і я стараюся,
І кветкі сыплюцца на дол.
На Д'ябла з жахам азіраюся,
А мне ўсміхаецца Анёл.

* * *

Горад вясёлы: спявае, гудзе,
Смяецца, гамоніць і скача.
Самотны бядак між натоўпу ідзе.
Здаецца, душа яго плача.

Твар учарнелы і змора ўваччу,
І сам – неспакой і трывога.
“Браток, пачакай!” я крыкнуць хачу,
Ды ён не пачуе, нябога.

*24.07.94 г.*

* * *

Люблю падацца ў белы свет,
У шлях нязнаны і няблізкі,
Сабраць на харч і на білет,
Жыць без нагляду і прапіскі.

Пакінуць свой надзейны дах,
Пакуль душа зноў не заные,
Павандраваць па гарадах,
Дзе ёсць музеі і піўныя.

Худым, счарнелым, з барадой
Вярнуцца і паспавядацца...
Піць роднай мовы сырадой,
Ад злыбяды зноў адбівацца.

*28.04.02 г.*





* * *

Не паддавайся Сатане
Ні днём, а ні ўначы.
Кажы заўжды благому “не”,
Няўпэўнены – маўчы.

Рабі дабро,
Будуць шалець,
Злавацца, праклінаць.
Тваёй душы будзе балець,
Яна пачне стагнаць.

А ты не плач. Рабі. Ідзі.
Не пазірай назад.
Супроць дабра няма суддзі.
Бывае толькі кат.

* * *

Ніхто не вечны на Зямлі,
Свой час для кожнага настане,
Хоць не адкажа на пытанне
І наймудрэйшы: “А калі?”

Жыццё бясконцае бяжыць,
Яно адно не памірае,
Пакуль Гасподзь нам патурае,
Здаецца, вечна будзем жыць.

Адыдзем. Родная зямля
Нас перародзіць у сцяблінку,
Затым у кропельку-крывінку
У цёплым цельцы немаўля.

## МАЛІТВА

Я сёння не саромлюся маліцца,
У адзіноцтве, моўчкі, ў цішыні.
Мне хочацца душою прыхіліцца
Да бескарыслівасці і дабрыні.

Табе, Хрыстос, я дзякую за тое,
Што на сябе чужыя ўзяў грахі.
Малюся: “Божа, зберажы святое,
Што ў душах нішчыць Сатана ліхі.”

Малю Цябе ад ранку і да ночы:
“Пазбаў, Гасподзь, мой край ад духаў злых.
О, Бог, адкрый сляпым на праўду вочы,
Вярні глухім да слоў сакральных слых.”

* * *

Мне абрыдла будзённая праца,
Я знямогся свой воз цягнуць.
Мне так хочацца “адарвацца”,
Пасваволіць, як кажуць, “гульнуць”...

І карціць мне прыпомніць былое,
Незабыўныя тыя гады,
Дзе не раніла слова злое,
І душа не чакала бяды.

Цягне ў свет мяне палайдачыць...
Хай шампанскае мне пададуць!
Толькі вочы штосьці цьмяна бачаць...
Толькі ногі бясконца гудуць...





* * *

Жыў незалежна – вольны сокал,
Сучасны, смелы, зух і хват.
Крытыкаваў усіх навокал,
Біў, як гавораць, у набат.

Разаблачаў ілжэсвятыні –
Змагар за праўду і прарок.
Браў непрыступныя вяршыні
За крокам крок,
За крокам крок.

Не пасадзілі.
Не забілі.
І ўсё ж аброць яму знайшлі.
Яго начальнічкам зрабілі
І нават чарку налілі.

І хлопец быццам спатыкнуўся,
Крытычны пал яго зачах.
Панік, прыгорбіўся, прыгнуўся,
Перамяніўся на вачах.

Ён ад душы цяпер вітае
Тых,
З кім з агідай гаварыў.
“Ну, як здароўечка?” пытае
Таго,
Каго калісьці крыў.

Вось так і гінуць дэмакраты,
Ідзе нябачная вайна.
Цяпер не садзяць больш за краты.
Падсунуць крэсла – і хана!

* * *

Нам размаўляць ужо няма пра што…
А так хацелася разок сустрэцца.
Былое – як старое паліто,
У ім, пацёртым, душам не сагрэцца.

Было – прайшло. Цяпер, – на жаль, – няма.
Сплыло ў нябыт, у Лету – незваротна.
Каля парога туліцца зіма.
Жалобна вые. Сумна і гаротна.

Сусветная забава – Інтэрнэт:
Спакуса, небяспека і ахова.
Зайдзі ў яго. Паплач на цэлы свет.
І адгукнецца ён абавязкова.

* * *

Чую старое: "Не лезьце ў душу,
Я там патаемнасць хаваю".
А я не баюся: "Зірніце, прашу,
Вам насцеж яе адкрываю…

Глядзіце, чапайце, няхай забаліць,
На спёку яе, у завею!
А то, распанеўшы, не зможа любіць,
А то, як скарынка, счарсцвее."

Ёй горача робіцца на скразняку,
Ад спёкі яна не згарае…
Лёгка жывецца на сталым вяку,
Калі душа не старая.





* * *

Вясёлыя, добрыя людзі
Не забываюць мяне,
Мае адвакаты і суддзі,
Хто дзынкне, а хто зазірне.

І адлятае нудота
Прэч – за палі і бары.
І грэе душу пяшчота
З далёкай юнацкай пары.

Зноў выплываюць твары
Далёкіх – найблізкіх – сяброў…
У сэрцы – бадзёрыя ўдары,
У жылах – вясёлая кроў…

* * *

Ані няма маёй віны,
Што выгляд маю не сталічны.
Вядома з даўняй даўніны,
Што свет заўжды быў шматаблічны.

Маё маўленне не такое,
Як у лінгвіста-фанетыста.
Схапіў я слоўца гаваркое
З прыпеўкі зуха-гарманіста.

І размаўляю, і спяваю
Гаворкаю неўнармаванай.
І ад нікога не хаваю:
Я – з даўніны паруйнаванай.

* * *

Я дзень і ноч чакаю навіны,
Бесперапынна “ленту” правяраю:
Здаецца, што вось-вось “няма вайны”
Ва ўсіх паведамленнях прачытаю.

Я ўбачу фота: малады салдат
Калашнікава прэч з сябе зрывае
І грубы, мне нялюбы, рускі мат
Крычыць уверх і ...слёзы не хавае.

Упэўніцца шчаслівы: “Я жывы!”
Жахнецца думцы, што магло з ім стацца.
І будзе з кожным днём цяпер на Вы...
Ды ветліва з усім жывым вітацца...

* * *

Сказаць “я сябра твой” – адказна,
Нібы сабою, лепшым, адарыць,
Бо сказанае будзе неадвязна
Жыць у табе, усцешваць і карыць.

Сказаць “я вас люблю” – адважна,
Нібы адкрыць схаванае на дне
І, жывучы аседла ці бадзяжна,
Зноў пацвярджаць: “Не адракуся, не!”

Сказаць “кахаю” – нібы развітацца
З самім сабой, усім ахвяраваць
І пра ўзаемнасць нават не пытацца...
Нічога не прасіць, а толькі аддаваць...





## ПАНЯДЗЕЛАК

Як запрашэнне да веры,
Тыдзень ляжыць перад намі.
Мы адчыняем дзверы,
Каб апынуцца ў храме.

Перш, чым пайсці ў дарогу
Да важнай высокай мэты,
Давайце памолімся Богу,
Сяляне, службоўцы, паэты.

Мы ўсе награшылі даволі,
З нас кожны хоць крышку злыдзень.
Як неўзаранае поле,
Нас новы чакае тыдзень.

*2000 г.*

* * *

А нас ці зразумее свет,
Які мы на падмогу клічам...
Нам Бог пакінуў запавет,
Які мы за прыдумку лічым.

Мы выракліся слоў святых,
Якія нас, як жыць, вучылі,
Паспадзяваліся ж на тых,
Што Злу сусветнаму служылі.

Не дабрыня, а злосны дух
Запаланіў людскія сэрцы.
Бандыт са зброяй – гэты зух
Бярэ сваё па поўнай мерцы.

* * *

Мне сівізна на галаву,
Як іней на траву, кладзецца...
Трываю боль – але жыву,
Мне анікуды не падзецца.

Не раз даваў зарок:
Душу
Больш не адкрыю ліхадзею.
Зноў спатыкнуўся,
Зноў нашу,
Як тайну,
Слабую надзею.

Упарта крочу на святло,
Мне ў змроку бачацца прагалы.
Паверыць не магу,
Каб зло
Беспакарана шыкавала.

* * *

З цяжкасцю ўлажу ў нейчую думку.
За што б ухапіцца, дзе тут цаўё?
Нібы вытрасаю вялікую сумку,
Між рэчаў нічыйных шукаю сваё.

Вельмі загадкава, дужа туманна,
Не бачыць дэталяў зняверany зрок.
Не ацаніў я мудронага пана.
Загадкі.
Таемнасці.
Сэнсавы змрок.





* * *

Ад лёгкіх жартаў да прароцтва
Шлях, як ад шчасця да бяды,
Як ад забаў да адзіноцтва,
Як ад натхнення да нуды.

Няхай жа будзе блаславёны
Наш хлеб надзённы, дух жытла.
Калі сустрэў нас дзень замглёны,
То будзе час і для святла.

* * *

Душа наша – тонкае шкло,
Націсні – і разаб’ецца,
Іператворыцца ў тло
Тое, што вечным здаецца.

А чалавек без душы –
Паранены птах, бяскрылы,
І як яго ні варушы,
Не знойдзе для ўзлёту сілы.

* * *

Як гэта робіцца? Дзе тая кнопка?
Як добра, што я ў тэхніцы прафан.
А той быў спец.
Загад... І... пуск! І – кропка...
І белы свет ахутвае туман...

* * *

Не, я мінулае не ўслаўлю…
То не карцінка ў гожай раме.
Пайду лепш свечачку пастаўлю,
Пакутніцы вялікай – маме.

Яна спаўна адгаравала,
І сотай долі хто ці зведаў
Таго, што маме перапала
З несправядлівасці і бедаў.

Калі ж здаецца мне: валюся,
Пакуты не ўтрываю болей.
Тады я кленчу і малюся…
Я, мама, боль, пераадолю.

*02.05.02 г.*

* * *

Ты язычком марозіва лізала…
Стаяў па-жнівеньску гарачы дзень.
Я не пачуў, што ты тады сказала,
Увагу адцягнуў назола-авадзень.

Тады я думаў, што каханне – жарты,
Яшчэ не ведаў хітрыкаў дзяўчат.
Занадта малады, нявопытны і ўпарты,
Злавіць імкнуўся хітры твой пагляд.

Але раптоўна, спрытна, нечакана
Твой позірк мне душу працяў, як цвік.
Ты ж усміхнулася нявінна, беззаганна,
І паказала мне язык.





* * *

Ты кахала мяне, ты туліла мяне,
Ты шаптала пяшчотныя словы.
А ці думаў тады я, што час праміне,
Прамільгне, нібы зайчык вясновы?

Быў шчаслівы я, танчыў і песні спяваў,
Верыў лёгка спакуслівым марам.
З цэлым светам, здавалася, я сябраваў
І ўсміхаўся і зорам, і хмарам.

Час праходзіў імкліва і ў Лету сцякаў,
І вярнуць яго ўжо немагчыма.
Дзе цяпер той агонь, што мяне апякаў
Пры сустрэчы з тваімі вачыма?

Азірнуся назад, там гусцее туман,
Жар душы астывае паволі.
Ах, няўжо гэта толькі самападман
І цябе не было аніколі?

* * *

Крэмзаю словы яшчэ – для прыліку,
Навошта – не ведаю сам – гавару.
Я збіты – наўмысна? – табой
З панталыку,
То ў неба ўзлятаю, то ў пекле гару.

* * *

Прыадкрываю вам душу,
Наколькі мужнасці стае.
А прыадкрыўшы, папрашу
Не затаптаць яе.

* * *

Восень спяшаецца, каб не спазніцца,
Хмаркі з дажджамі ў разведку ўжо шле.
Дні карацеюць. Даўжэюць спадніцы.
Дзявочым каленкам нявіннае сніцца…
Але…

* * *

*Умацоўваюцца ўзаемасувязі*
*Беларусі з Лаосам (з навін)*

Прыехаў чалавек з Лаоса
Да нас з не абы-якім заданнем.
Прыслухаўся: як шматгалоса
Спяваюць птушкі летнім раннем!

Агледзеўся, спачатку скоса,
Ды і замёр, запаланёны…
Убачыў ільняныя косы…
І раптам выгукнуў: “А-лё-на!”

Павезла ў вёску. Там на росы
Ён босы выскачыў уранку.
А потым еў хлапец з Лаоса
Бліны ды смачную мачанку.

Вось так прыжыўся кірпаносы,
Трасянкай шпарыць, не бядуе.
Не п’е, не курыць папяросы.
З Алёнай немаўля гадуе.





* * *

Я ўбачыў турчанку
На турэцкім ганку
І спытаў, бяздумны,
Чаму тварык сумны…
Сказала сучасна,
Адкрыта і ясна:
“Ды чакаю турка,
Мужыка-прыдурка.”

*Два вершы памяці*
*Васіля Быкава*

* * *

Заўжды ўладары
Крыжавалі прарокаў,
І песцілі слых ім
Балбатуны.
Ён праўдай-паходняй
Свяціў нам у змроку,
Хоць з рук выбівалі
Паходню яны.

Не ўсе разумелі,
А што яму трэба,
А што, неўтаймоўнаму,
Вечна карціць.
За вольны шматок
Недасяжнага неба
Гатовы быў
Лёсам, крывёю
Плаціць.

Цяпер разгубіліся,
Праўду шукаем,
Згубілі кірунак,
Патухла святло...
Мы злосна адзін аднаго дакараем:
“Ты збочыў са шляху,
А трэба было...”

* * *

Вымавіць праўду – праблема цяжкая,
Толькі памкнешся хоць слова сказаць,
Як страх неадольны твой рот заціскае,
Душу тваю хоча вузлом завязаць.

Яе нам прыносяць зусім не анёлы,
Да выбраных праўда прыходзіць сама,
І не баіцца быць жорсткай і голай,
Бо ў сэрцах людзей гэтых
бруду няма.

* * *

*Рыгору Барадуліну, рэдактару*
*маёй першай кніжкі*

Заціхае павольна нягучны мой спеў...
Дзякуй, Майстра, табе за турботы.
Сваю лепшую песню я спець не паспеў,
Бо заўсёды адкладваў на потым.





Мне чамусьці здавалася: часу ў мяне
Для забавы і справы хапае.
Чаша выпіта горкая.
Кроплі на дне.
Ну, а смага не адступае.

## ЗУБРЭВІЧЫ

*Янку Сіпакову*

Па Зубрэвічах верасень ходзіць,
Па Зубрэвічах восень гуляе,
То самотную песню заводзіць,
То з самою сабой размаўляе.

У Зубрэвічах дагарае
Залатое бабіна лета.
Вёска бульбачку выбірае,
Сілы сцягнуты ўсе на гэта.

І бабулька тэпае з кіем,
Ногі слабыя, нібы п’яныя.
Заспяшаліся гарадскія
У Зубрэвічы на выхадныя.

У Зубрэвічах пахне картопляй...
Што ж мне гэтак сэрца сціскае?
Дажджавая першая кропля,
Як слязінка,
Па шыбе сцякае.

* * *

*Давіду Сімановічу*

Бяжыць, бяжыць, амаль ляціць
На крылах духу і натхнення,
І гучным водгукам трымціць,
Вунь там, наперадзе, імгненне,
Калі захочацца сказаць:
“Усё! Я прыручыў удачу.
Я лёс свой здолеў закілзаць
І свет хоць крышку перайначыў”.
Не, гэта, брат, не мітусня,
А дзея, барацьба і мэта.
Мацуецца жыццё штодня
Прыватна ў дзённіку паэта.
Адважыўся ён сэнс і тло,
Дабро і зло, як ёсць, пазначыць.
Ён кажа нам: “Вось так было”...
Жыццё па-свойму кожны бачыць.

* * *

Мы рамантыкі з шасцідзесятых,
Дзеці крохкай адліжнай пары...
Нас залічваюць да вінаватых
За захмаранасць светлай зары.

Мы спявалі, мы свята марылі
Пра жыццё без высокай маны.
І не мы далягляды захмарылі,
Хоць і бэсцяць нас без віны.

Мы рамантыкі. Нас ужо мала.
Мы не здрадзілі самі сабе.
Не, не страцілі мы ідэалы.
Яны ў нас – і ў жальбе, і ў гульбе...





* * *

*Анатолю Канапельку*

Калі, зусім зняможаны ад спраў,
Прыпынішся,
дзівоснай сілай скуты,
Прыслухайся, як у душы зайграў
Арган чароўны, анікім нячуты.

Ты ў паднябессе глянеш з-пад рукі:
Адкуль такая музыка ліецца?
Не жаўрукі пяюць.
Пяшчотныя радкі,
Як птушкі з гнёздаў,
вылятаюць з сэрца.

І вольны вецер свету іх нясе,
А ты стаіш, ад шчасця захмялелы,
І слухаеш, як за табой усе
Пяюць пра тое,
што ў душы балела.

*1999 г.*

* * *

*Ф.Г.*

Балансуеш на канце ляза.
Рызыкуеш у продань зваліцца.
У каханай на вейцы –
Сляза:
Новай прыкрасці вельмі баіцца.

А натоўп нецярпліва гудзе.
Рот разявіў –
Відовішчаў прагне.
“Упадзе...”
“Упадзе?”
“Упадзе!”
Хціві злыдзень насілкі ўжо цягне.

І махае сардэчна рукой,
Салютуе: заўсёды гатовы!
Ён з нагоды – сякой і такой –
Першы скажа гарачыя словы.
Ты смяешся:
“Во дзіва знайшлі...
Што вы, людзі, ў такім перапудзе?
Я грунтоўна стаю на зямлі.
Аніякага цырку не будзе!”

* * *

*Феліксу Гумену*

Аўтабаны, нібы арэлі...
Бацька Рэйн старызной чаруе...
Па нямецкай жывой акварэлі
З пэндзлем рупным
Фелікс вандруе.

Не забыўся, чаго ён варты,
І адкуль ён,
Не забывае.
Выдае свае ўсмешачкі-жарты
І адразу пыху збівае.





І не вабяць яго вітрыны –
Ёсць інакшая асалода:
Прабіваецца ў сэрца краіны,
Зазірае ў душу народа.

Глянь, і тут ужо палюбілі,
Кажуць: фарбы яго, як промні.
Калі дома крыху забылі,
Дык напомні ім, Фелікс,
Напомні...

* * *

Гляньце: Зямля прачынаецца,
Надзеі ў душы расцвілі,
А з гэтага ж і пачынаецца
Светлае ўсё на Зямлі.

Болямі суправаджаецца
Час абнаўлення, сябры,
І ў гэты час нараджаюцца
Геніі і Майстры.

Справіўся Бог з задуманым,
Задавальненне ўвачу,
Зверху любуецца Гуменам:
“Магу ўсё ж, калі захачу!”

* * *

Я неяк прабіўся праз голад і сцюжы,
Дарма не зайздросьце: нялёгкі мой лёс.
Не стаўся нахабным, ні вёрткім, ні дужым,
Праз продань нявыкруткі Бог мяне нёс.

Не сумняваюся: верыць – не верыць?
У кожнага ж ёсць ідэалы свае.
А звычка свой поспех “зялёнымі” мерäць
Да слабай душы маёй не прыстае.

Прыходжу на фініш. Ні славы, ні грошай...
Жыць не навучыўся спрытна, як усе.
Не буду хваліцца.
Не быў я святошам.
Заўжды па прастрэльнай хадзіў паласе.

* * *

*Сяргею Рублеўскаму*

Што ёсць сапраўдная паэзія? Не ведаю.
Чытаю штосьці. Штосьці не чытаю.
Я не вучоны. Слова не даследую.
Калі не спіцца, зборнічкі гартаю.

Бывае, што зачэпішся знянацку:
Чаму ж раней на вока не траплялася?
Трымаеш кніжку, як малое цацку,
З якой яно яшчэ не нагулялася.

Смакуеш слова, чуеш пах і гукі,
І так і гэтак – вось яно, сапраўднае!
Не трэба тут ніякае навукі:
Душа спявае: “Ах, якое слаўнае!”





Перад табою новы свет адчынены.
Ты здзіўлены: як жыць было без гэтага?
Уся зямля – з чужынамі, з Айчынаю
Ёсць толькі кропка змесціва сусветнага.

* * *

*Сяргею Макарэвічу*

У працы, у сяброўстве, у каханні
Не абыходзіцца ніколі без тугі.
Шчаслівы быў... І вось расчараванні...
Усё сплялося
У клубок тугі.

Ты волю страціў,
Ты не бачыш выйсця,
І на падмогу аніхто не йдзе.
Ты забываешся,
Што моцны быў калісьці
І мог супроцьстаяць любой бядзе.

Цябе пужаюць змрочныя падзеі,
І страх жыве, стаіўшыся ў грудзях.
...Каб не іскрынка кволае надзеі,
Як ты са змроку выйшаў бы
На боскі шлях?

* * *

Грымяць навальніцы і войны,
Паводкі гудуць і ракеты,
Ад веку наш свет неспакойны,
Пракляты і ў песнях апеты.

Жывое змятаюць хвалі,
Жалеззе палоняць крыгі,
Збіваюцца вечныя шалі,
Нязменна плятуцца інтрыгі.

Малая дзятва недарэчна
Ад наслання памірае.
А той, хто трафеі збірае,
Жыць, мусіць, наважыўся вечна.

І ладзяцца новыя міны:
Ніводзін не хоча здавацца...
Свет-грэшнік, відаць, павінны
На д'ябальшчыне падарвацца.

* * *

Зірнуць у люстэрка душы ленаваўся,
Усмешкай адказваў, як мне жывецца,
Ад праўды няёмкай няўклюдна хаваўся...
Але ж ад сябе анікуды не дзецца.

Маўчанне ёсць золата...
Толькі аднойчы
Язык анямелы прысохне да нёба.
Душа дзіка ўзвые,
Спагады захоча,
Ды ў пустцы развеецца ветрам
Жалоба.





* * *

Там –
Кожны вечар тарарам,
Там п'юць віно і посуд б'юць.
Чутно з двара – крычаць "ура"
І песні ўразнабой пяюць.

Суседзі ў позні час
Не раз
У сценку лупяць кулаком,
А ў адказ ім–
Унітаз
Хрыпіць забітым гарляком.

Запоўнач сцішыцца ўжо ўсё,
Апошні выпаўзе з вулля.
Заенчыць, нібы парасё,
Дзвярэй іржавая пятля.

Падслепаватая сава –
Ноч сядзе ціха ля вакна,
А саламяная ўдава
Адна
Праплача да відна.

* * *

Я гаротнае цьмяна помню маленства.
Мы свой смех са слязой спалучалі.
Выключалі мяне з камсамольскага членства,
Шмат адкуль мяне выключалі.

Быў усюды я лішні, нясвойскі і грэшны.
Толькі мама мяне шкадавала.
Яе голас быў ціхі, ласкавы і ўсцешны.
Мама ўмерці душы не давала.

Без яе аніхто я, нічога неварты,
Хоць старанна жыццё імітую.
Не кранаюць мяне ні знявагі, ні жарты.
Супроць подласці не пратэстую.

Цёмна. Жудасна. Ніякавата.
Ніадкуль ужо не выключаюць.
І не ў радасць цяпер аніякія святы,
І ўжо страты не засмучаюць.

* * *

Сноп абмалочаны. Салома
У хлеў на подсцілку ідзе.
Усё гэта даўно вядома...
Зноў зерне ў глебу
Упадзе.

Зноў новы колас адрунее,
Звязуць салому
У стагі...
Жыццё бясконца зелянее,
Касе зноў сняцца мурагі.





* * *

Выходжу на вуліцу – слотна і хмарна,
Ні сонца, ні снегу – адзін толькі лёд.
І мары, як хмары, развеены марна,
Балючым падзеннем закончыўся ўзлёт.

Пад ногі гляджу, ідучы асцярожна,
А мэты не бачу – куды я іду?
Пагрозлівы вецер грыміць пераможна...
Дасць Бог, утрымаюся, больш не ўпаду.

Ды выблісне сонца і ў сэрцы надзея,
Адродзіцца раптам, згадаю вясну.
І гляну на неба: там хмарнасць радзее...
Душа маладзее.
“Не страшна!”, шапну.

* * *

Нязвыклае ў сэрцы зацішша,
Ні радасці, а ні трывог.
Ніхто мне лістоў не піша,
Не пераступіць парог.

Няўжо маразы закавалі
Лепшае ўсё, што было?
Ніколі ж пустым не бывалі
Ні сэрца маё, ні жытло.

Цяпер жа... ці сталі старыя?
Ці ў сэрцы ў нас заняпад?
Не.
  Гэткі цяпер перыяд:
Пройдзенага перагляд.

* * *

Дзе знайсці мне слова такое,
Больш не чутае анікім,
Каб не ведалі людзі спакою,
Сэнс таемны шукаючы ў ім.

Каб у думках яго паўтаралі,
Нібы вершык з дзіцячых гадоў,
І па-свойму перастваралі,
Падбіралі чароўнасць складоў.

Я адчуў невыносную стому,
І з’явілася слоўка ў сне.
Ды не выдам сакрэт анікому,
Бог паслаў яго толькі мне.

## СТАРЭЧЫ РОЗДУМ

Іскрыцца снег пад месячным святлом,
Я крочу полем, снег праз ноч рыпіць.
Вунь нашу хату бачу за вуглом
І ведаю, што мама зноў не спіць.

Чакаючы бадзяжнага мяне,
О колькі перадумалася ёй,
О колькі перабачылася ў сне,
Праплакана з няўдаласці маёй.

Хто вёў мяне ў жыцці: нячысцік, Бог?
Хто навучыў пакутваць і любіць?
Я запаветы маміны збярог,
Ды не сумеў па іх жыццё пражыць.





* * *

Нялёгка ўсведамляем, што й без нас
Жыццё хады сваёй не запаволіць.
Не заўважаем, што імклівы час
І нас нясе, гуляе і сваволіць.

У плыні розных спраў і мітусні,
Каб як не ўпасці, больш глядзім пад ногі.
Не спім начамі: мройна лічым дні
Да нашай меркаванай перамогі.

А час імчыць... Куды ён занясе?
Хоць ведаем, ды верым неахвотна.
Развейваюцца ўсе мроі пакрысе...
І пра душу згадаем...
Моўчкі і маркотна...

* * *

Марныя нашы памкненні
Разбіліся, нібы шкло.
Мы сноўдаем, чорныя цені,
Шукаючы ў змроку святло.

У жудасным гэтым тунелі
Прасвету пакуль што няма.
Мы знемагліся, скалелі,
Гукаем у цемень дарма.

А што мы ў пацёмках шукалі?
Чаго мы сюды забрылі?
Мы й іншых ісці заклікалі.
Разумныя не пайшлі.

* * *

Карысным нічым не займаюся –
Я з вечнасцю абдымаюся,
Да ўсякіх любосцяў ахвочы,
Гляджу ёй пранізліва ў вочы.
Я кажу: “У тваім абсягу
Ці знойдзецца мне, бадзягу,
Маленькі ўтульны куточак
І да яго замочак?
Замкнуся, каб свету не бачыць,
Каб думаць сваё
і лайдачыць”.

* * *

Самалюбства і славалюбства
Точаць душаньку маю грэшную.
Суцяшаю сябе: гэта глупства,
Зводжу ўсё
На забаву пацешную.
Бачу цьмяна і невыразна
Сваю будучыню недалёкую.
Я жыву неўсур”ёз,
Безадказна,
Моўчкі,
Толькі душою галёкаю.
Анікога сабой не турбую,
Злосцю праўды не дамагаюся.
Я адчайнасць сваю сляпую
Прыхаваць
Як глыбей
Стараюся.





* * *

На горкі лёс не буду крыўдаваць,
І на людзей не хочацца злавацца.
Так, давялося мне галадаваць,
І плакаць, і трываць, ды не здавацца.

Што значыць: не здавацца? А каму
Мяне ў палон забраць была патрэба?
Як хочаш, так жыві, адольвай зіму,
Зацірку сёрбаць можна і без хлеба.

Раз выжыў, то з пытаннямі не лезь
Пра справядлівасць і “айцоў” дзяржавы...
Калі паэт, спявай пра поле, лес,
Пра луг, што за аселіцай, і травы...

Так я й рабіў... Кагосьці зачапіў?
Даруйце, не хацеў і не шукаў выгоду...
Я мала наспяваў і шмат чаго прапіў,
Ды не нашкодзіў я свайму народу.

* * *

Я застаўся зусім без сяброў,
Верабей на паваленым плоце.
Ні частункаў і ні дароў
Не чакаю ў сваёй адзіноце.
Мне б сардэчнае слова пачуць,
Мне б усмешку злавіць у паглядзе,
Дык і можна б спакойна заснуць...
А спагада хай побач прысядзе.

## ХАЙКУ

*Хайку – японская форма верша. Першы значны і да сённяшняга дня самы вядомы аўтар гэтай формы – Мацуа Басё (1644 – 1694). Масаока Шыкі (1867 – 1902) замацаваў верш у японскай паэзіі. У еўрапейскіх мовах – гэта трохрадковы нерыфмаваны верш: першы радок – 5 складоў, другі – 7 і трэці зноў 5. Могуць быць варыянты, але кароткасць – галоўная адметнасць хайку.*

*Змест хайку канкрэтны. У ім – цяперашні момант, адлюстраваны некалькімі словамі. Разважанні і агульныя думкі катэгарычна непрымальныя, як і ўсялякія фантазіі. Аўтар дае прастору асацыяцыям чытача.*

* * *

зваліўся на дол
і не падняць галавы
вітаю неба

* * *

мурог пад нагой
рука падарожніка
цалуе клямку

* * *

на скрыжаванні
цені зліліся ў адзін
твой пацалунак





* * *

холад сабачы
ланцуг на панадворку
звініць і звініць

* * *

за сценкай словы
слухаю не чуваць
спрэчка ці мілаванне

* * *

зморшчыны густа
аздобілі пекны твар
возера вецер

* * *

насцеж дзверы
з іх выходзіць паненка
Божа мой хто ты

* * *

гудзе самалёт
чмель пасаджаны ў слоік
дзяцінства вайна

* * *

слёзка на вейцы
лістоты вясёлы бляск
бура прайшла

* * *

палосы на небе
бінт на зраненым целе
гулялі ў вайну

* * *

патухла святло
у суседнім пакоі
хтосьці спявае

* * *

крочу праз цемень
трапіў пад летні дождждык
смяецца душа





# ПЕРАКЛАДЫ

**АЛЯКСАНДР ПУШКІН**
**(1799 – 1837)**

## ВАКНО

Нядаўна позняю парою,
Калі самотна давідна
Заснула поўня над гарою,
Я ўбачыў, што каля вакна
Дзяўчына сумная сядзела
І, гонячы таемны страх,
Яна напружана глядзела
На змрочны між пагоркаў шлях.

“Я тут!” – хтосьці прашаптаў імкліва.
Дзяўчына ціха, як магла,
Акно адкрыла баязліва.
На месяц хмара наплыла.
“Шчасліўчык!” – я шапнуў з журбою. –
“Ты слодыч п’еш, нібы віно.
Калі ж вячэрняю парою
І мне адчынецца вакно?”.

## ЕЎДАКІЯ РАСТАПЧЫНА
## (1812 – 1858)

* * *

Хай ён няверны, хай ён мне здрадзіў.
Плакаць не буду! Мой век малады!
Новы прыхільнік з журбой у паглядзе
Заменіць былога! І гэткай бяды!

Хай пашукае чарнейшыя вочы,
Вуснаў больш палкіх, больш лёгкай хады!
Новы прыхільнік мілосці захоча –
Будзе замена! І гэткай бяды!

Вернецца, пэўна, з нізкім паклонам,
О! Як смяяцца пачну я тады!
Позна! Дарэмна! Я клятвам ягоным
Больш не паверу! І гэткай бяды!

*1849 г.*





## СЯРГЕЙ ГАРАДЗЕЦКІ
## (1884 – 1967)

* * *

Пражыў я некалькі нялёгкіх жыццяў,
Здаецца, я на дыбе паміраў,
Галоўны кат загадваў: “Вяжыце!”
І я, прывязаны да дрэва, ўшчэнт згараў.

Але стрываць мне сёння немагчыма,
Душа мая, як на пякельным дне,
Калі ты з яснымі дзіцячымі вачыма
У цемень адыходзіш ад мяне.

* * *

Надыдзе час, калі мяне не будзе,
А дні імчацца будуць, як заўжды,
І сонца ўстане, новы дзень разбудзіць,
Пакрые золатам і нівы, і сады.

Будзённы люд – квяцістае сузор’е –
Свой звыклы подзвіг без мяне пачне,
Ды песенька мая, нібы ручай з узгор’я,
Гучаннем мяккім душы закране.

## УЛАДЫСЛАЎ ХАДАСЕВІЧ
## (1886 – 1939)

### ВЕСЯЛОСЦЬ

Згадаю ўцехі, што былі,
І радасці начных гулянак.
Глыток – і беды ўсе сплылі...
І ўсё пяшчотней звоны шклянак.

І хмельнае жыццё да дна
Табе аголеным здаецца,
Як гэта гнуткая спіна,
Што вабнасць надае суседцы.

Хрыбецінкі лічу яе,
Адмецінкі танклявай спінкі...
Кранаюць вусны іх мае,
На іх ад пудры парушынкі.

Істоты юнай лёгкі смех...
А я згрызот не адчуваю,
Што ведаю так шмат пра грэх,
А досвед весела хаваю.

### САКАВІК

Размякла і ракісла, і размокла,
Ад сырасці аж цяжка прадыхнуць.
Глядзімся ў шкло асфальту: мы анёлкі,
Глядзім у неба – бачым змрок і муць.
А ці не дзіўна: ў затаптаным брудзе
Нам велічна наш воблік паўстае,
А там на небе, вельмі блізкім цудзе,
Ёсць толькі тое, што зямля дае.





## ІВАН БУНІН
## (1870 – 1953)

* * *

Сёння ноччу доўга хтось спяваў,
Заблукаўшы недзе ў цёмным полі...
Голас сумны з дзёрзкасцю гучаў,
Ён спяваў пра шчасце і пра волю.

Адчыніў вакно я... за спіной
Спала ты... я ж захапіўся песняй.
Пахла з поля мокрай збажынай
І цягнула свежасцю нябеснай.

Што ў душы мне спеў той расштурхаў,
Невядома, ды душа ўздыхала,
І так палка я цябе кахаў,
Як калісьці ты мяне кахала.

* * *

Ішлі мы побач, толькі ты
Баялася зірнуць мне ў вочы...
Пакуты нашай нематы
Рваў вецер у пацёмках ночы.

Ад свежасці сакавіка
У садзе плакала лістота.
Свяціла мне твая шчака,
Блакітнела ў вачах пяшчота.

Да паўраскрытых губ тваіх
Я зрок свой павярнуць баяўся...
Здалося мне, што свет прыціх,
І гледзячы на нас, здзіўляўся.

* * *

Шчаслівая, вандруеш і кахаеш...
Дзе ты цяпер? На хвалях паплыла?
Заліў Біскайскі лёгка абдымаеш,
Паміж панамаў белых і святла...

Кроў старажытная ў табе пульсуе,
Ты – простая, вясёлы твой пагляд.
Загар ружовасць шчок тваіх цалуе,
І серпік губ, бяздоннасць вачанят...

Скажы паклоны князю і княгіні
Цалую ручкі, любае дзіця...
Маё каханне, ведай, не астыне,
Я не хаваю шчырасць пачуцця.

**ГАННА АХМАТАВА**
**(1889 – 1966)**

## ПЕРАД ВЯСНОЙ

Перад вясной бываюць дні такія,
Пад шчыльным снегам спачывае луг,
Шапочуць дрэвы, весела-сухія,
Пяшчотны вецер лезе пад кажух.
Сваёй бязважкасці не верыць цела,
І дома, дзе жывеш, ужо не пазнаеш,
Абрыду-песню, што даўно не пела,
Як новую, узрушана пяеш.





**ТАЦЦЯНА СЫРЫШЧАВА**
**(1915 – 2008)**

* * *

Бачу восені ранняй прыкметы:
Агаляюцца рогі-сукі,
І плыве ў рэчцы зорка-планета,
І завісла ў кустах ад лета
Завушнічка ружовай тугі.

Калі ласка, дарункаў бязмежжа,
Грук арэхаў, мядзвяны абоз
Спелых сліў, павуцінак мярэжы,
Восаў гул, што ўжо вуха нам рэжа,
Іхні рой, неадступны, як лёс.

Ходзіць восень, бліскоча ключамі,
Цеплыню зараз імі замкне.
А мне ластаўкі сняцца начамі,
Ды ўжо плечы адчулі з адчаем,
Што не вырастуць крылы ў мяне.

* * *

Я музыку, музыку моўчкі нашу,
І ёй ужо шмат гадоў.
Я доўга не ведала, што я пішу,
Вершы ці пацеркі слоў...

Каб рыфму злавіць, неабходны спакой.
А як мне пабыць адной?
У лесе далёкім крынічкі-звяркі,
сілкуюць сабой ручай.

Ім перашкодзіць спрабуюць пяскі,
каб волю змяніў адчай.
Як глянеш – працуюць быццам дарма.
Ды смерці ў крыніцаў няма.

Я часта цяпер паўтараю сабе,
крэслячы зноў і зноў,
што сілы прыходзяць у барацьбе,
што воля – аснова асноў.
Я пляскаю ўладкі шчаслівай траве,
якая каменні ірве – і жыве!

**БАРЫС ЧЫЧЫБАБІН**
**(1923 – 1994)**

## З САНЕТАЎ КАХАНАЙ

13

За ноч палатка ўся наскрозь прамокла.
Бадзёрыць свежасць ранішняй расы.
Цячэ туман з зялёнай паласы,
А я табе чытаю ўслых Сафокла.

Сабака гаўкнуў. Сціхлі галасы.
За рэчкай вёска давідна прымоўкла.
Знямелі птушкі. Слухаюць лясы,
Як я табе чытаю ўслых Сафокла.

Жадаю, каб з сабой забрала ты
Вясковы дух, гаючы і святы,
І каб на ранах кроў мая засохла.





Цяжкі наш век. Браты нам не сябры.
Свет памірае, хворы і стары.
А я табе чытаю ўслых Сафокла.

14

Мне пра цябе, душу тваю і цела,
Пісаць, як пра сябе апавядаць.
Ты – мой сабор, адзіны ацалелы,
Дзе я магу маліцца і рыдаць.

Ты – тое ўсё, што родны край мог даць:
Абсяг палёў з настоем траўкі спелай,
І добры смех, і жах душы самлелай,
І годнасць, каб лакействам пагарджаць.

Ты – ўсё жыццё. Ці можна ўціснуць гэта
У крохкі змест імгненнага санета,
Які б і рыскі не сказіў твае,

Каб ты, як свет, заззяла белым раннем,
Як бажаство, даступнае жаданням,
Як цуд, што па-над светам паўстае?

**УЛАДЗІМІР САКАЛОЎ**
**(1928 – 1997)**

### ГОЛАС

Хмар сіняватыя гронкі,
Прамень – залатое вясло.
Лес. І нібы спрасонку
Голас. Адкуль занясло?

“А” альбо “У” – нясмелы
Гук, што знямеў паміж дрэў.
Выклік незразумелы
Падняў мяне. І згарэў.

### СПАТКАННЕ

Жарцік. Шалік. Позірк ззяючы.
Манастырскія вароты.
Сіні, жоўты снег, што таючы,
Абяцае восень, слоту.

Шэраг дрэваў – змрочных змоўнікаў,
Вецце голае дубровы,
Быццам зборышча назоўнікаў,
Што чакаюць дзеяслова.

* * *

Верш памірае ў галаве,
У сшытак не занатаваны...
Так лісцям палым
у траве
Зямлёю стаць наканавана.





І птушка ў небе прамільгне,
Вачамі не ўтрымаць палёту...
Так праляцеў год у мяне.
Няўжо і праўда – без звароту?

Дакладна так. Але калі
Мы марны год
з ёй сустракалі,
Надзеі ‘шчэ ў мяне жылі...
А дзе здзяйсненні заблукалі?

Зіма. На голлі і траве –
Халодны снег. Шлях – прыхаваны.
Верш памірае ў галаве,
У сшытак не занатаваны.

**АНАТОЛЬ ЖЫГУЛІН**
**(1930 – 2000)**

### КАСТРАПАЛЫ

Пад аховаю аўтаматаў
Дзень пры дні звіняць тапары.
Нам жа іншы далі занятак:
Мы салдатам палім кастры.

Сцюжа... быццам Паўночны полюс,
І кусае мароз, як звер.
Мой напарнік – палонны японец,
Куміяма-сан, афіцэр.

Кажуць, гэта злачынец зацяты.
(Ён па-руску – ні ў зуб нагой.)
На пагрузцы цяжкою латай
Нават кокнуць хацелі яго.

З ім пасты ўсе за дзень абыходзім,
Мы, вядома, не дружбакі,
Ды адзін аднаму не шкодзім,
Нам сварыцца з ім не з рукі.

Бо якая ні ёсць, а праца,
Мы пілуем адно бервяно.
Закурыць бы дзе расстарацца...
Мы махоркі не маем даўно.

Не набудзеш табакі ў БУРы,
І зацяжку дарэмна прасіць,
А канвойны стаіць і курыць,
Аўтамат на грудзях вісіць.

На японца ён пазірае,
Косіць вокам няўзнак з-пад рукі.
Ну а мне, як відаць, давярае –
Мы з ім блізкія землякі.

Я – салага, зусім зялёны,
Для салдата і то малады.
"І такія бываюць шпіёны?
Ну, за што загрымеў сюды?"

Не знаходжу салдату адказу.
Зразумець не захоча ніхто.
І таму гавару адразу
Вельмі сцісла: "А ні за што."





"Не брашы, ні за што не садзяць.
Пэўна ж, нешта зрабіў не ў лад".
І салдат машынальна гладзіць
Рукавіцай жоўты прыклад.

А затым,
Каб не бачыў ротны,
Дастае паўпачка махры,
На пянёк залаціста-потны
Ён кладзе:
"Вось, вазьмі, закуры".

Я бы рады ўзяць у далоні
Той пачок, што паклаў салдат.
Ды махра ў забароненай зоне.
Ці не грукне па мне аўтамат?

І такая здараецца штука.
Для паднячкі пачне з размоў,
Потым скажа: "Даў драла, сука".
І поедзе ў водпуск дамоў.

Секане па табе з аўтамата –
Тут не любяць у жмуркі гуляць.
І я ў вочы гляджу салдату.
Не, здаецца. Не будзе страляць.

Да пянька і назад – тры крокі.
Я з салдата не зводжу вачэй.
Заціскаючы жменю махоркі,
Праз прасеку іду хутчэй.

Адпусціў мяне страх закляты.
Я спацеў, бы пабыў у вадзе.
"Дзякуй, дзякуй", – кажу салдату.
Куміяма паклоны кладзе.

Мы спяшаем па лесе хвойным,
Што азяблы пад снегам прыціх,
І махорку, што даў канвойны,
Дзелім роўненька на дваіх.

* * *

О, жыццё – неспадзяванка,
Шчасце, што паслаў мне лёс!
Вечаровая заранка,
Пацеркі бліскучых рос.

І вайна, і люты голад,
І тайга – сібірскі бор,
І пякучы жорсткі холад
Зледзянелых голых гор.

Так і сяк – усяк бывала
На зямлі тваіх дарог,
І бывала, што сплывала
Ты, жыццё, з-пад хісткіх ног.

Як бы ні было трывожна,
Я змушаў сябе ісці.
А без гэтага – ці можна
Не згубіць сябе ў жыцці?

Я ўсяго спазнаў даволі,
Шмат што страціў –
Не бяда.
Толькі,
Што жыццё ніколі
Не паўторыцца,
Шкада.





## ДАВІД СІМАНОВІЧ
## (1932 – 2014)

І з'едуць тыя, хто мне блізкі быў…
Забыўшыся, што ён вястун нябесны,
Архангел развітанне пратрубіў
І горка сам загаласіў, балесны.

Каля магіл, дзе продкі ў вечным сне
Спачылі, я з сябрамі расстаюся,
Я тут, асіроцелы, застаюся.
І белы свет не мілы болей мне.

Я іх любіў, сяброўствам даражыў.
Каго любіць і сябраваць з кім буду?
Архангел развітанне пратрубіў.
Ніякаму ўжо не адбыцца цуду.

* * *

У водпуску ўсе пабылі,
І толькі, мама, ты
Стаяла, нібы вартавы,
Ля ночваў і пліты.

У кухні-пекле ўсе гады
Цягнула песеньку адну:
"Я ў рай патраплю і тады
Як след там адпачну".

У мамы ела і піла
Уся зямля, бадай…
А дзесьці побачкі вяла
Сцяжынка ў гэны рай.

* * *

Смяртэльна знемагла,
былінкаю трымцела...
Душа, як ты жыла
у кволых сховах цела?

Пад хмарамі бяды,
пад ліўнямі навалы
цвярдзела
і тады,
б'ючыся,
выжывала.

* * *

На прарадзіме без мовы жыву.
І стрэчныя ізраільцянкі
Не разумеюць пытанняў маіх
І міма з усмешкай праходзяць.

А я пра адно хачу іх спытаць:
Ну як праз тысячагоддзі
Пранеслі яны сваю прыгажосць
І зберaглі сваю гордасць.

На прарадзіме без мовы жыву.
І стрэчныя ізраільцяне
Не разумеюць пытанняў маіх
І, шумныя, міма праходзяць.

А я пра адно хачу іх спытаць:
Ну як праз тысячагоддзі
Пранеслі яны мужнасць сваю
І зберaглі сваю веру.





## *З нямецкай мовы*

### **МАРЦІН ОПІЦ (1597 – 1639)**

### ПЕСНЯ ЖАРСЦІ

Ляжалі ў ліхаманцы,
Іх ахапіў пажар.
І ён казаў каханцы:
"За твой бясцэнны дар
Пакуты я трываць гатовы,
Памерці нават, вер на слова".

Гарэў агнём пякельным,
Нічога болей не пытаў.
У палe іх суцэльным
Пульс збіўся і прыстаў.
Ён, да яе нібы прыкуты,
Шчаслівы быў трываць пакуты.

Яна заплюшчылася ціха,
Ён быццам паміраў.
Уздрыгнуў целам, цяжка дыхаў.
Бо ўжо перагараў.
Змаглося сэрца, кроў бурліла,
Душу, здаецца, жарсць спаліла.

Яна: "Жыццё маё, каханне,
Я ад цябе цяпер плыву".
"А я,– сказаў ён, – без дыхання,
Здаецца, болей не жыву".
Яго заспеў спакой ва ўлонні,
Адпачываў, як ад пагоні.

**ПАЎЛЬ ФЛЕМІНГ**
**(1609 – 1640)**

### ЁН ПРОСІЦЬ ЯЕ ПРЫЙСЦІ

Парадуй нас дваіх, душы маёй світанне,
Мне радасць без цябе – прадвесніца бяды.
Прыйдзі, другое Я маё, прыдзі туды,
Дзе ладзілі з табой сустрэчы-развітанні.

Я захварэў табой. Прыйдзі,
ты – ўратаванне,
Суцеш мяне, мой скарб, пазбаў мяне нуды,
Ты для мяне адна, нібы глыток вады.
Мы ўбачымся з табой і збудуцца жаданні.

Ні Бог, ні чалавек, ні звер, ніхто жывы
Не ўбачыць нас. У лёгкім шэпаце травы
Пачуеш толькі стогн, хто бачыць цябе прагне.

Прыходзь, каханая... Не прамаўляй жа “не”.
Я чую ўжо, як сэрца шэпча мне:
Быць з ёю – рай, а без яе – ты ў багне.

**СІМАН ДАХ**
**(1605 – 1659)**

### ПЕСНЯ СЯБРОЎСТВА

Мы маем шмат ад Бога,
Нам важна з гэтым жыць:
Быць вернымі і строга
Сяброўствам даражыць.



Таго, з кім ты сябруеш,
У гневе супакой.
І сам, як злосць адчуеш,
Не здайся ёй, ліхой.

Нам даравана слова
З сябрамі размаўляць,
І гэтак праз размову
Лагоднасць узнаўляць.

Нам важная ўзаемнасць,
Каб хто параду даў,
І чуласці нязменнасць,
Калі прыйшла бяда.

Што можа нас усцешыць,
Прагнаць самоты боль?
Сяброўскія пасмешкі,
Дасціпных жартаў соль.

Забудзь свае пакуты,
І з імі злосць памрэ.
Хто злосны і надзьмуты,
Той сам сябе зжарэ.

Малю найперш я Бога,
За ўсіх, хто блізкі мне.
Прыму ў сябры любога,
Хто не служыў мане.

Я з гэткім пасябрую,
Асілю з ім бяду.
З ім лёгка і памру я,
І ў пекла з ім пайду.

Мне даспадобы людзі,
З кім крочу праз гады.
Я веру, з імі будзе
Надзейна мне заўжды.

Люблю сяброў бясконца,
Што ёсць і што былі.
Мае сябры, вы – сонца,
Вы – скарб усёй зямлі.

**ПАЎЛЬ ГЭРХАРДТ**
**(1607 – 1676)**

## У МАЮ ДУШУ ПАВОЛІ...

У душу маю паволі
Суцяшэнне ўносіць Бог.
Ён параду даў мне, волю,
Каб я жыць спакойна мог.
Для мяне ён – наймацнейшы,
Ён – мой дом, ратунак першы,
Ён – падтрымка для мяне,
З ім мяне зло не сагне.

Ненавіснікі! Увага!
Вы ўсё ходзіце за мной?
Што? Для вас мая адвага
Выклікае неспакой?
Вы навіслі нада мною
Спарахнелаю сцяною,
Вы гатовы ўсё зрабіць,
Каб мяне ўшчэнт загубіць.





Пэўна ж, ёсць такіх нямала,
Гідкіх, як гнілы гурок,
Хто рыхтуе мне навалу,
Хоча зрынуць мяне ў змрок.
Іх язык ад плётак чорны,
Меліць бруд, як тыя жорны,
Жыць не могуць без маны,
Знеслаўляць майстры яны.
Я жыву, мой Дух нязломны,
Не баюся болей іх.
Бо мяне Гасподзь нястомна
Беражэ ад сіл ліхіх.
На Яго ў душы надзея,
На Яго, на дабрадзея.
Ён збаўленне мне дае,
З ім памкненні ўсе мае.

Аніколі я не згіну,
Аніколі не памру,
Ён мяне вядзе, як сына,
На высокую гару.
З ім і гонар, з ім і слава,
З ім і радасць, і забава,
Шчасце, шлях жыцця майго,
Лёс зямны ўвесь – ад Яго.

Спадзявайцеся на Бога,
Людзі добрыя, заўжды,
Ён прыходзіць на падмогу
Чалавеку ў час бяды.
З сэрца выкіньце сумненні,
Боль і горкія трызненні.
Верце, як сабе, Яму,
Без сумненняў, аднаму.

Бог пазбавіць ад няшчасця
Кожнага, хто да Яго
Хоча ўсёй душой прыпасці,
Як да роднага свайго.
Чалавек не шмат што можа,
Сам сабе не дапаможа,
І не ашчаслівіць нас,
Ні асобна, ні зараз.

Эй, напышлівыя дурні!
Бруд на вашым форсе ўсім,
Вашы справы – толькі гульні,
Сэнсу ў іх няма зусім.
І калі іх строга зважыць,
Што нам тыя вагі скажуць?
Паважалі іх дарма,
Анічога ў іх няма.

Дзеці, гэта вам не прыклад,
Не бярыце іх за ўзор.
Іх занятак вельмі прыкры,
Месціць страх, грахі, дакор.
З мітуслівым славалюбствам
Ходзіць побач самагубства.
Не спяшайце мець грашы:
У грашах няма душы!

Для душы супакаення
Боскі знайце запавет
І нябёсаў благаславенні.
Той, хто слухае як след,
Чуе моц, вялікасць Бога,
Як ён судзіць свята, строга,
Як ён любіць дабрыню.
Гэта я найбольш цаню.





**АНДРЭАС ГРЫФІУС**
**(1616 – 1664)**

### ПОЛУДЗЕНЬ

Сябры, спяшайма да стала, усё гатова,
Вунь сонейка аж да зеніту ўжо дайшло.
І шлях зямлі дзяліць рашуча пачало,
Як рэзаць і наш дзень – на дзве паловы!

Ад спёкі кветачкі падсохлі ўжо часткова,
І смягне поле, што буяла і цвіло,
Яму б хоць кропельку... Ды воблачка сплыло,
І птушачкі маўчаць у прахалодных сховах.

Вакол – святло, і чорны цень хутчэй бяжыць
У падзямеллі, дзе ён стоена ляжыць,
Схаваць свой страх і сорам маючы на мэце.

Ад бляску дзённага мы б уцячы змаглі,
Але не ад святла, бо дзе б мы ні былі,
Суддзя наш бачыць нас, і нават на тым свеце.

**ЁЗЭФ ФОН АЙХЭНДОРФ**
**(1788 – 1857)**

### КАЛЯДЫ

Крочу я праз ноч, і гулка
Аддаецца рэхам крок.
Апусцелі плошчы, вулкі,
Толькі вокны лашчаць зрок.

Як прыгожа гаспадыні
Ажывілі Святам шкло.
З недасяжнай зорнай плыні
Шчасце да дзяцей сыйшло!

Урачыстасць неадольна
Вабіць з горада ў палі.
Як тут радасна, як вольна!
Слепіць вочы бляск Зямлі!

Таньчаць зоркі мігатліва,
Снег заснуў і цуды сніць,
І з глыбінь яго маўклівых
Музыка Раства звініць.

**АНЭТЭ ФОН ДРОСТЭ-ГЮЛЬСГОФ**
**(1797 – 1848)**

## НА ВЕЖЫ

Я на балконе на вежы стаю,
Шпак шпарка вакол кружляе.
Менада – я ветру сябе аддаю,
І ён з валасамі гуляе.

О дзікі юнак, о дзёрзкі вар'ят,
Абдымемся шчыльна, упарта,
Каб над прадонню – ні кроку назад –
Падужацца не на жарты.





А ўнізе на бераг адна за адной
Хвалі бягуць, як шчаняты.
Яны дурэюць, шумяць ды гульнёй
З бурбалкамі заняты.

Я рынуцца ў хвалі таксама хачу,
У гэту няўтомную зграю,
І я між каралаў тады паімчу,
Адважна маржа асядлаю.

Яшчэ мне бачыцца вымпел, які
Трапечыцца навідавоку,
Караблік жа круціць ва ўсе бакі,
Мне бачна гэта звысоку.

А мне хацелася б скокнуць туды
І завалодаць штурвалам,
І чайкай марской над паверхняй вады
Імчацца з прыроджаным шалам.

Хацелася б мне паляўнічым пабыць,
Хацелася б стаць салдатам,
Ці проста мужчынскую справу рабіць –
Мне будзень зрабіўся б святам.

Ды мне, паслухмянай, прыносяць нуду
Дні, што адна сустракаю.
І толькі патайна на волю іду
І валасы распускаю.

**ГЕНРЫХ ГЕЙНЭ**
**(1797 – 1856)**

## НЯДОБРЫ СОН

Мне сніўся сон, што юны і бадзёры
Я бег з гары ад летняга дамка.
З Атыліяй мы беглі па-над морам,
Была ў маёй руцэ дзявочая рука.

Што за фігурка вабная! Чароўна,
Нібы ў русалкі, зелена гарэў
Яе пагляд. А ножкі ладна, роўна
Ляцелі па зямлі паміж кустоў і дрэў.

І галасок яе гучаў пяшчотна,
І словы лёгкай музыкай плылі.
Я слухаў яе музыку ахвотна
І бачыў вусны, што як мак, цвілі.

Не, гэта не прыдумка пра каханне,
Было прыемна блізкасць адчуваць.
Мяне апанавала хваляванне,
І я пачаў ёй рукі цалаваць.

Здаецца, потым я сарваў ёй лілію,
Якую ёй са словамі паднёс:
“О, выйдзі замуж за мяне, Атылія,
З табою побач быць – які шчаслівы лёс!”

Яе адказ мне сёння невядомы,
Бо перарваўся гэны сон тады.
Я ж хворы і амаль што нерухомы
Ляжу ў лякарні доўгія гады.





## ДАКТРЫНА

Бі ў барабан і не бойся ані,
Цалуй маркітантку адчайна!
У гэтым навукі ўсёй карані
І кніжак адвечная тайна.

Ідзі, барабань, людзей разбудзі,
У душы змарнелыя грукай
І баязліўцаў наперад вядзі.
У гэтым уся навука!

У гэтым гегелеўская філасофія
І кніжак адвечная тайна.
Спазнаў філасофію гэную я
І б’ю ў барабан адчайна.

**ТЭАДОР ШТОРМ**
**(1817 – 1888)**

## КАЛЯДНАЯ ПЕСНЯ

З усмешкай зорачка ў прадонне
Глядзіць ласкава з вышыні,
А ельнік, што ў зімы ў палоне,
Шле водар адмысловы сёння,
І ноч іскрыцца ў цішыні.

Мая істота ўся знямела:
Каляды зноў прыйшлі да нас.
Царква шматзвонна зазвінела,
Душа нястрымна паляцела
У казачна чароўны час.

Зноў цуд святы я адчуваю,
Малюся, здзіўлены стаю,
І слёз дзіцячых не хаваю,
Душой Калядам гімн спяваю,
Здзяйсняю мару ў іх сваю.

**НІКОЛАЎС ЛЕНАЎ**
**(1802 – 1850)**

## ГЛЕДЗЯЧЫ НА РАКУ

Ты бачыш шчасце, што плыве,
Назад яму ўжо не вярнуцца...
Рака цябе нібы заве,
Не дазваляе адвярнуцца.

О, ты пагляд свой не адводзь
І ў змрочнай глыбіні пабачыш
Усё, што страціў мімаходзь,
Па чым цяпер душою плачаш.

Глядзі нястомна... Па шчацэ
Слязінка скоціцца паціху,
І адлюструюцца ў рацэ
Былыя радасці і ліха.

І ў летуценнях, нібы ў сне,
Забудзешся пра боль і раны.
Пакутная душа ўздыхне
І адплыве у край нязнаны.





## ЦЯЖКІ ВЕЧАР

Цяжкія воблакі навіслі,
Ад іх зыходзіць чорны жах...
У сад у роздуме мы выйшлі,
І горкім быў паветра пах.

Задушлівасць знямелай ночы...
Змрок праглынуў нябёс святло...
Ад слёз аслеплі нашы вочы:
Каханне зруйнавана ў тло.

“Дабранач”, – развітаўся ў скрусе,
А як пайшоў, то ў гэны ж час,
Я пажадаць адчайна мусіў,
Каб смерць хутчэй забрала нас.

**ТЭАДОР ФАНТАНЭ (1819 – 1898)**

## ТРЫСТА РАЗОЎ

Трыста разоў я падумаў сабе:
“Сёння дужэйшым быў я ў барацьбе!”
Трыста разоў акрыляла надзея:
“Сёння я ўшчэнт перамог ліхадзея!”
Ды потым я схібіў аж трыста разоў,
І трыста разоў я злятаў з тармазоў.
І трыста разоў зноў трываў я няўдачу...
Цяпер усёроўна.
Я моўчкі лайдачу.

**РЫХАРД ДЭМЕЛЬ**
**(1863 – 1920)**

### ПРАСВЕТЛЕНАЯ НОЧ

Праз гай змярцвелы ідуць удваіх,
Бяжыць маладзік над галовамі іх,
Па-над маладымі дубамі.
Небу хапае ад зорак святла,
Яліны махаюць рукамі.
Жанчына тады пачала:

“Дзіця, што ўва мне – не ад цябе,
Іду, вінаватая, каля цябе.
Я ведаю, што саграшыла.
Не верыла я, што аджыву,
Надзея душу варушыла:
Я стану маці і аджыву...
Сама не свая ад адчаю была.
Я саступіла, сябе аддала
Таму, каго не любіла.
Сябе блаславіла на кпіны.
Ды неўзабаве і помста прыйшла:
Сустрэла цябе, адзіны”.

Яна ідзе, а цела дрыжыць,
Маладзічок за імі бяжыць,
І смутак ніяк не схаваць.
Мужчынскі голас чуваць:

“Дзіця, якое ты носіш,
Не грэх. Дарма ты галосіш.
Зірні, як сусвет карагодзіць!
На небе бляск і на расе,
Халоднае мора нас нясе,





Ды наша цяпло сыходзіць –
Тваё да мяне, маё да цябе.
Дзіцятка, якім ты ходзіш,
Ты мне ад мяне народзіш;
Ты мне адкрыла сэнс жыцця,
Цераз цябе я стаўся дзіця.”

Ён абдымае пругкія сцёгны,
І вецер разносіць іх стогны.
Ідуць праз празрыстую ноч удваіх.

**ГЕРМАН ГЭСЭ**
**(1877 – 1962)**

### СПАКУСНІК

Каля дзвярэй прастойваў я нямала,
Спяваў на вушка песенькі дзяўчатам,
Спакуснікам лічыўся зухаватым,
І ў гэтым ладны поспех меў, бывала.
Але заўжды, спазнаўшы вуснаў мёд,
Але заўжды, займеўшы, што шукаў,
Я не ўзвышаўся, а наадварот,
Я толькі нізасць плоці адчуваў.
І пацалунак, горача жаданы,
І ноч, якую палка так выпрошваў,
Здабыўшы, бачыў: кветачка зламана,
І водар знік, я годнае спустошыў.
З пасцелі часам я выносіў боль,
Для насычэння я хапаў зашмат,
Ад асалоды я ўцякаў назад
У мары, у тугу, у алкаголь.

О гора мне: валоданне – не шчасце,
А рэчаіснасць жорстка мары нішчыць,
Мне ж мроіліся хмельныя ігрышчы
Пад музыку нябёс у лепшым часе.
Да кветкі зноў цягнуся ў цішыні,
Зноў заляцаюся, рыфмую зноў...
Не вер, красуня, прыгажосці слоў,
Пярэч жаданням, а мяне гані.

## УЗНЯТЫ ПАЛЕЦ

Майстар Дзі-Джы, чалавек ад Бога,
Меў нораў мяккі, сціплы і някідкі,
Ён больш маўчаў, не павучаў нікога,
Бо словы ён лічыў за мёртвыя адбіткі
Жывых намераў. І стаяў на тым.
Калі манахі, вучні, проста докі
Пра сэнс жыцця і мэты рэй вялі
І пырхалі дасціпна пад аблокі,
Ён разумеў, што словы толькі дым,
І ведаў, што казаць, дзе і калі.
Пытанняў сыпаліся груды –
Цікаўнасці і дурасці клубок –
Пра змест пісьмёнаў, пра імёны Буды,
Пра прасвятленне і жыцця выток,
І пра канец яго. Ён моўчкі слухаў.
Паказаваў уверх. Без лішніх рухаў.
І гэты палец, так шматзначна ўзняты,
Так шчыра ўсім казаў, напамінаў,
Вучыў, хваліў, караў, зацята
Той ісціне служыў, што вучань пачынаў
Узняты палец бачыць як знаменне,
Выходзячы, як ад штуршка, з зацьмення.





## МАТЫЛЁК У ВІНЕ

У кубку з віном малы матылёк утапіўся.
Хмельную смерць з асалодай прымае.
Ледзьве варушыцца, быццам дашчэнту ўпіўся;
Урэшце мой палец яго жывога трымае.

Промні вачэй тваіх сэрца маё асляпілі,
У кубку духмяным кахання яно патанула,
Гатовае ўмерці, віна тваіх чараў глытнула,
І каб не рука твая, спрахла б яно ўжо ў магіле.

## ДУБ З ПАДПОРКАМІ

Стаіш, мой дуб, увесь зарубцаваны,
Нязвыклы, адзінокі, хворы дуб!
Трываў ты сто разоў, калі смылелі раны,
Сабраўшы сілу волі ў дзёрзкі чуб.
Мяне, як і цябе, шматкроць паранілі.
Я, як і ты – пакутнік, а жыву,
Мяне і зневажалі, і тыранілі,
А я ўздымаў да сонца галаву.
І дабрыню маю, маю пяшчоту
Вось гэты свет у зло ператвараў.
Я ж не здаваўся і сваю істоту
Намерам жыць лагодна
падпіраў.
Зноў дробная лістота зелянее
На пашчапаных бурамі суках.
І я жыву,
бо я любіць умею
вар'яцкі гэты свет,
хоць сам у сіняках.

**ШТЭФАН ЦВАЙГ**
**(1881 – 1942)**

### АПОШНІ ВЕРШ
(Падзяка шасцідзесяцігадовага)

Круціцца, аж глянуць люба,
Дзён сівых верацяно.
Толькі нахіліўшы кубак,
Бачыш залатое дно.

Прадчуванне  блізкай ночы
Не хвалюе, не гняце!
Цэлы свет спазнаўшы,
вочы
Не заблудзяцца ў лухце.

Дасягненні не трывожаць,
Мера ёсць свая ў жыцці.
Старасць мудра дапаможа
Развітацца і пайсці.

І ніколі так яскрава
Быў не бачны краягляд.
Кліча адыход ласкава
На жыццё зірнуць назад.

### ПЯШЧОТА

Люблю я вельмі першыя пяшчоты:
Маўклівасць і пужлівасць да ўсяго,
Прыходзіць час пераадолець цноту,
Забыцца, што спазналі “да таго”.





Час чуйнасці, і час – судакранання,
Усмешка ў позірку, нясмелая далонь,
Ад іскаркі – пажар, ён неадольна цягне
Абрынуцца ў яго: хай спапяліць агонь.

Салодкі час, які гульнёй здаецца,
Без мэты і намераў, і без слоў.
Так дрэва гнецца, сіле паддаецца
Нахабных незакілзаных вятроў.

**ОЙГЕН РОТ**
**(1895 – 1976)**

### ПАЭТ, ЯКОМУ ШТОСЬ ПЕРАШКАДЖАЕ

Дзівак настроены на працу,
І ведаючы: трэба брацца,
Не пачынаў: праз шкло пякло,
Так, што ўжо сілы не было.
Ён млеў, пацеў, аж вар’яцеў,
Пісаць не мог, хоць і хацеў.
Знямножаны, як на пажары,
Заўважыў: наплываюць хмары.
Дождж зашумеў, ручай надзьмуўся.
“Цяперака я і вазьмуся!”
Ды дзе там! Сцішыўся, сядзіць.
Маланка, гром, усё гудзіць.
Дзівак увесь імпэт згубіў:
“Каб град мне вокны не пабіў!”
Дождж адшумеў, адгуў, адшэрхаў.
Дзівак сядзіць. Чытайце зверху.

## АЛЬФРЭД МАРГУЛЬ-ШПЭРБЭР (1898 – 1967)

### ПАМЯЦІ МАЦІ

Поле збялела, сцякае ў блакіт.
Жанчына не спіць, як трымае іспыт.
Чакае анёла ў бядзе і нудзе:
З лесу, здарожаны, ці дабрыдзе?

Блізіцца вечар з мяккай слязой,
Мак насычае ўсё пахам, красой;
Змярканне і поле, блакіт і спакой
Гайдаюць калыску дзіцячай рукой.

Конікі, вецер улегліся спаць,
Дрэвы паснулі ўжо і не рыпяць.
Але з прасторы, празрыстай, як звон,
Я маміну песню чую праз сон.

## АЛЬБРЭХТ ГАЎСГОФЭР (1903 – 1945)

*Альбрэхт Гаўсгофэр напісаў гэты верш у берлінскай турме Маабіт перад судом за ўдзел у спробе замаху на Гітлера 20 ліпеня 1944 г. Яго "Маабіцкія санэты" – мастацкія сведчанні нямецкага супраціўлення. Верш – з гэтага цыклу.*

### ВІНА

Я лёгка прызнаю, што гэты суд
Паставіць мне ў віну: намер і планы,
Я сам сабою быў бы пакараны,
Калі б не дбаў, што заўтра будзе тут.





Ды я інакш, чым вы, сябе віню,
Гатоў карыць сябе запозненым дакорам,
Што я назваў запозна гора горам...
Адцягваў прысуд, хоць ведаў, што маню.

Сябе абвінавачваю цяпер:
Хлусіў я доўга ўласнаму сумленню,
І я хлусню не падвяргаў сумненню...

Я разумеў нялюдскі іх намер...
Я папярэджваў, ды не ўскрываў ману...
Я сёння зразумеў усю сваю віну...

## МАША КАЛЕКА (1907 – 1975)

### ШАНСОН ПРА ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

Што раніца заўтра нам прынясе,
Не ведаем мы, не ўяўляем.
Мы косім, малоцім – занятыя ўсе,
Працуем як след на сваёй паласе,
Мы сённяшні дзень аздабляем.

Мы ведаем добра, што ўчора было,
Запомніць надоўга імкнёмся,
Мы ведаем добра, што ўчора было,
Палі засяваем, будуем жытло
І доўга пражыць спадзяёмся.

Што раніца заўтра нам прынясе?
Трывогу ці заспакаенне,
Ці бойкай, ці працай займёмся мы ўсе...
Ды тое, што раніца дзень прынясе,
Няма ў нас ані сумнення.

## ЭРЫХ ФРЫД
## (1921 – 1988)

Пра таго,
хто сказаў А,
распускаюць чуткі,
быццам ён сказаў і Б.

* * *

калі вершы
робяцца
больш простымі,
то гэта не доказ,
што жыццё
стала простым.

* * *

прыдзіце ж
вы
добрыя
малаўжываныя словы
вы непрыдатныя для лозунга
вы, што не пераліваюцца
рознымі колерамі
і прызнаюцца
іншымі
за сімвалы
вы непрыдатныя
для баявога маршу
вы, якія не падыходзяць
для напісання на сцягах
нават на сцягах
супроць сцягоў
ворага.





**Уладзімір Папковіч**

нарадзіўся 25 сакавіка 1935 года ў вёсцы Дварэц на Вілейшчыне. У 1953 годдзе скончыў Ільянскую сярэднюю школу Вілейскага раёна і паступіў на факультэт нямецкай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моваў, які скончыў у 1958 годдзе. Працаваў у тым жа самым інстытуце выкладчыкам нямецкай мовы, затым у розных навучальных і дзяржаўных установах Мінска выкладчыкам і перакладчыкам тэхнічнай літаратуры. З 1966 года жыве і працуе ў Віцебску.

З 1982 года – старшы выкладчык нямецкай мовы Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя С.М. Кірава (цяпер – Дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава). З 1998 па 2005 год – загадчык кафедры нямецкай мовы гэтага ўніверсітэта.

Цяпер – поўны пенсіянер.

Друкавацца пачаў з 1962 года ў рэспубліканскіх, абласных і гарадскіх выданнях у Мінску і Віцебску: часопісах “Нёман”, “Полымя”, “Маладосць”, альманахах “Далягляды”, “Братэрства” і інш.

Выдаў кнігі вершаў: “На досвітку” (“Мастацкая літаратура”, 1978); “Зерне” (“Мастацкая літаратура”, 1982); “Самы кароткі цень” (“Мастацкая літаратура”, 1988); “На тым стаю” (УПП “Віцебская абласная друкарня”, 2004); “Вы будзеце смяяцца” (пад псеўданімам Ахрэм Нядбайла, “Віцебская абласная друкарня”, 2008); “Рэшта” (Мн.: “Медысонт”, 2010), “Пасля свята” (2013).

Перакладаў кнігі з нямецкай мовы на беларускую:

Ёганэс Р. Бэхер. “Вяртанне да сябе”. Вершы (“Мастацкая літаратура”, 1985);

Рут Крафт. “Востраў без маяка”. Раман (“Мастацкая літаратура”, 1987);

Закаханы вандроўнік: паэзія нямецкага рамантызму (“Мастацкая літаратура”, 1989);

Фрыдрых Шылер. "Вільгельм Тэль" (у кнізе: "Скарбы сусветнай літаратуры", "Мастацкая літаратура", 1993);

Эрых Марыя Рэмарк. "Тры таварышы". Раман ("Мастацкая літаратура", 1994);

Гудрун Паўзэанг. "Хмара" (Логвінаў І., 2011 г.);

Вільгельм Гаўф. "Карлік нос", "Малады англічанін"; (2014) і інш.

З рускай і беларускай на нямецкую:

Давид Симанович. "Витебск. Шагал. Любовь." (Witebsk. Chagall. Liebe. "Віцебская абласная друкарня", 2003).

Кастусь Вераніцын. "Тарас на Парнасе" (Taras auf dem Parnass. У кнізе: "Класіка", выдавец Віктар Хурсік, 2003).

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1981 года.

Лаўрэат прэмій "Сузор'е муз" і імя Уладзіміра Караткевіча.





## ЗМЕСТ

